У НУМАРЫ



# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 13 (735) ГОД XV БЕЛАСТОК 29 САКАВІКА 1970 г. ЦАНА 60 гр.



Наша дэлегацыя сярод студэнтак Гродзенскага сельскагаспадарчага Інстытута.

**Няраўна ў Гродна адбылася навукова-тэарэтычная канферэнцыя, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна. На яе была запрошана дэлегацыя з Беластока: сакратар ВК ПАРП В. Мікульскі, кіраўнік ВУМЛ М. Гнатоўскі і галоўны рэдактар «Нівы» Г. Валкавыцкі. Ніжэй друкуем справаздачу з паездкі нашай дэлегацыі.**

# Па ленінскім шляху

5 сакавіка ў Гродна імжыў дождж. Дарогі зрабіліся коўзкія. Аднак вялікі абкомаўскі зал поўны слухачоў. З'ехаліся з розных куткоў вобласці, прыйшлі з горада. Актыў ідэалагічнага фронту. І роўна ў 12 гадзін, так як было ў праграме, І-шы сакратар абкома тав. **І. Ф. Мікуловіч** адкрывае канферэнцыю. Арганізаваў яе супольна з абкомам Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КПБ. Таму і дакладчыкі супольныя.

Першы даклад: **«Дзейнасць Кампартыі Беларусі па ажыццяўленню ленінскай нацыянальнай палітыкі».** Шырокая тэма, вялікі шлях. Беларусь — адсталая ў мінулым акраіна Расіі — стала ж адным з буйнейшых эканамічных раёнаў Савецкага Саюза. Займаючы толькі адзін працэнт тэрыторыі СССР і каля чатырох працэнтаў насельніцтва, дае амаль 20 працэнтаў агульнасаюзнай вытворчасці трактараў, шэсць працэнтаў грузавых аўтамабіляў, трынаццаць працэнтаў металарэжучых станкоў. Цяпер у рэспубліцы на працягу года вырабляецца ў вартасным выражэнні прамысловых вырабаў столькі, колькі давала іх уся прамысловасць царскай Расіі напярэдадні першай сусветнай вайны. За няпоўных пяць дзён цяпер у БССР выпускаецца такая колькасць валавой прадукцыі, якая выконвалася ў дарэвалюцыйнай Беларусі за цэлы год. Не пералічыш усяго, што выпускаюць сёння беларускія заводы і фабрыкі, іх вырабы заваявалі добрую славу не толькі ў Савецкім Саюзе, але і на сусветным рынку. Звыш 80 краін купляе беларускую прадукцыю.

Змянілася таксама аблічча беларускай вёскі. У мінулым тодзе закончана электрыфікацыя ўсіх вёсак. Да канца 1970 года плануецца закончыць комплексную механізацыю шматгалінавай сельскагаспадарчай вытворчасці. У рэальнасці гэтых планаў мы ўжо мелі магчымасць пераканацца. У кабінеце 1-га сакратара абкома вісіць адмысловая карта, якая, калі націснуць на адпаведную кнопку, запальваецца мноствам лямпачак. На Гродзеншчыне гэты план ужо выкананы.

А якія змены адбыліся ў культурным жыцці народа! Цяпер у Беларусі (раней краіне паўпісьменных людзей) ажыццяўляецца пераход да ўсеагульнай сярэдняй адукацыі моладзі. На кожныя 10 тысяч жыхароў БССР прыпадае 141 студэнт вышэйшых і 154 сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, тады як у дарэвалюцыйны час на тую ж колькасць насельніцтва прыпадала ўсяго два вучні тэхнікумаў. Цяпер у народнай гаспадарцы рэспублікі занята амаль 500 тысяч спецыялістаў з вышэйшай і спецыяльнай адукацыяй — больш чым ва ўсёй дарэвалюцыйнай Расіі.

І так у кожнай галіне. Гэта пацвярджае і наступны даклад: **«Дзейнасць КПСС па ліквідацыі няроўнасці ў палітычным і эканамічным развіцці нацый».**

## Гродзенскія лямпачкі Ільіча

Вяртаемся да вытокаў стварэння беларускай дзяржаўнасці. Ля іх стаяў Ленін. Даклад **«У. І. Ленін аб Беларусі»** прыпамінае многія факты. Ленін з вялікай цікавасцю сачыў за становішчам рабочых і сялян Заходняга краю, вывучаў іх сацыяльна-эканамічнае і палітычнае жыццё, ведаў іх настроі і імкненні. Вядома звыш 150 выказванняў, тэлеграмаў, запісак, лістаў Леніна, звязаных з Заходнім краем. Уладзімір Ільіч шмат увагі ўдзяляў развіццю рэвалюцыйнага рабочага руху ў Беларусі. Ён наладжваў асабістыя сувязі з арганізатарамі і кіраўнікамі рэвалюцыйнага руху ў Мінску, Віцебску, Гомелі, Пінску, Мозыры, Рэчыцы, Оршы, Бабруйску, Смаргоні і інш. Узначаліўшы Савет Народных Камісараў, Ленін даваў цэнныя парады беларускім таварышам па пытаннях партыйнага, савецкага і гаспадарчага будаўніцтва. Кіруючыся рашэннем ЦК РКП(б) і ўказаннямі Леніна, Беларускі Часовы рабоча-сялянскі ўрад 1 студзеня 1919 года абнародаваў Маніфест, які аб'явіў свету нараджэнне новай суверэннай дзяржавы — Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Упершыню за шматвяковую гісторыю беларускі народ здабыў сваю свабоду, незалежнасць і нацыянальную дзяржаўнасць. Гэта стала магчымым толькі дзякуючы перамозе Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, ажыццяўленню ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Што яна дала беларусам, гавораць і наступныя выступленні. У дакладзе **«Фарміраванне кадраў нацыянальнай інтэлігенцыі ў Гродзенскай вобласці за гады Савецкай улады»** на канкрэтным матэрыяле паказана вялікая работа, праведзеная партыяй у ажыццяўленні гэтага вельмі важнага ленінскага задання. На Гродзеншчыне, дзе раней не было ні аднаго вуза, цяпер тры інстытуты. Кузняй кадраў з'яўляецца педагагічны інстытут. На яго 19 кафедрах працуе 184 выкладчыкаў. Ён ужо выпусціў 7 тысяч кваліфікаваных педагогаў.

У Гродзенскім медыцынскім інстытуце 34 кафедры, на якіх працуе 222 выкладчыкі, у тым ліку 11 доктараў навук і прафесараў, 101 кандыдат навук. Звыш тысячы яго выпускнікоў працуюць у органах аховы здароўя. Каб уявіць змены, якія адбыліся тут у ахове здароўя, прывядзем наступныя факты: у 1938 г. на гэтай тэрыторыі на 10 тысяч насельніцтва прыпадала ў сярэднім толькі 5,5 бальнічных ложкаў і 1,3 лекара. Цяпер на тую ж колькасць жыхароў прыпадае 99 ложкаў і 15,5 лекара.

Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут існуе ад 1951 года. За гэты час вый-

Працяг на стар. 4

# БГКТ хроніка

■ Гурток БГКТ у Семяноўцы арганізаваў мастацкі калектыў, у праграме якога ёсць скетчы, песні, гумар і п'еса Янкі Купалы «Прымакі». Мастацкі кіраўнік драмгуртка настаўніца Мар'я Вілюк.

■ Драмгурток БГКТ у Чэхах Арлянскіх падрыхтаваў п'есу Уладзіміра Паўлючука «Конская кніжка». У дзень свята жанчын выступіў у суседняй вёсцы Дубічы Царкоўныя.

■ Гурток БГКТ у Ляневе супольна з гуртком ЗМВ паставіў п'есу «Зямля» Юркі Геніюша.

■ 5-га сакавіка адбыўся сход гарадскога гуртка БГКТ у Саколцы, у якім прынялі ўдзел старшыня і сакратар павятовага праўлення аддзела Расціслаў Мазалеўскі і Анатоль Севасцьянюк. Прысутных пазнаёмілі з планам працы аддзела на бягучы год.

■ Гурток БГКТ і ЗМВ у Паўлах пры дапамозе мясцовых настаўнікаў падрыхтавалі п'есу пад загалоўкам «Аповесць аб загінуўшым салдаце» і шмат песень. У гэтым годзе ўпершыню самадзейнікі выступілі 28 лютага ў сваёй вёсцы.

■ 8-га сакавіка ў доме культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку адбыўся павятовы конкурс на савецкую песню, у якім прыняло ўдзел 30 чалавек. Сярод гэтых удзельнікаў было 6 асоб з гарадскога харавога калектыву БГКТ. Выступала трыё — Ніна Мушынская, Ніна Цываню́к і Аляксандра Яроцкая, у дуэце — Галена Кот і Ірэна Паўлючук, а таксама Чэслаў Слусаж.

■ Варшаўскі аддзел 11 сакавіка арганізаваў гурток БГКТ у доме студэнта Інстытута рускай, украінскай і беларускай філалогіі. Гурток складаецца з 33 студэнтаў. Да праўлення гуртка выбраны наступныя асобы: Вера Асіпюк — старшыня, Леаніла Лясота — сакратар і Лена Клімюк — скарбнік. Сход абслужыў сакратар аддзела Янка Заброцкі.

■ 8 сакавіка з нагоды свята жанчын варшаўскі аддзел арганізаваў вечарыну. Пажаданні жанчынам злажыў намеснік старшыні аддзела Мікалай Врублеўскі. У мастацкай частцы выступілі студэнты з літаратурным мантажам аб жанчынах.

■ Сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк 13 сакавіка сустрэўся з сакратаром украінскага таварыства Рыгорам Баярскім, з якім абмеркавалі справы супрацоўніцтва. (мх)

**Нашым чытачам і сімпатыкам шлем сардэчныя святочныя прывітанні**

**НІВА**



# ПУШЧА, СНЕГ І ЛЮДЗІ



«Адсыпаць толькі снег ад пня».



«Працёртая» дарога ў пушчу.



Пушча і яе людзі.



«Спяшаемся, пакуль ёсць дарога»...

Пра зіму, цяжкую зіму, якую перасталі нават называць зімой стагоддзя, гаворыцца і пішацца многа. Пішацца многа можа не толькі для таго, каб інфармаваць аб вялікай колькасці снегу і звязанымі з гэтым цяжкасцямі, але і для таго, каб у будучыні навучаныя адной зімой людзі маглі лепш змагацца з наступнымі неспадзянкамі надвор'я.

Рэпарцёры наведалі **лясніцтва Суха** ў Белавежскай пушчы. Момант сонечнай пагоды дазволіў выбрацца ў пушчу да працуючых тут людзей. Па дарозе сустракаем першыя запрэжаныя санкі, пры дапамозе якіх «людзі лесу» вывозяць зрэзаныя калоды.

— Толькі што пракінулі дарогу, — гавораць сустрэтыя фурманы. — Спяшаемся, пакуль пагода.

А вось і паляна, дзе адбываецца выруб лесу. Два чалавека працуюць каля елкі. Яшчэ толькі адкінуць снег ад пня, і высокая елка паваліцца на зямлю. Але гэта праца не канчатковая. Каб зрэзаць адно дрэва, трэба перш за ўсё пракінуць дарогу, каб дайсці да дрэва. А трэба напомніць, што тут, у лесе людзі змагаліся ўручную са снегам, якога было тут вышэй пояса. Мала таго, што трэба было пракапаць дарогу да зрэзанага дрэва, але трэба было пракапаць і так званыя тунелі (дарогі) бяспекі, якімі рабочыя маглі б уцякаць, калі зрэзанае дрэва паваліцца ў непрадбачаны бок. Уцякаць па снезе было абсалютна немагчыма.

Такіх цяжкіх умоў працы ў лесе не памятаюць нават найстарэйшыя ляснікі. Дык нічога дзіўнага, што лесарубы мусілі ўлажыць на 50% працы больш, як у нармальных умовах, каб выканаць заданне.

**А. К.**

Фота Цаф — Сянько

# ШТО З ПІЛЬСНЕВЫМІ ПЛІТАМІ



Купля пільсневых плітаў на рамонт хаты належыць да ліку так званых вар'яцкіх спраў. Кожны па-свойму бярэцца за гэту справу: хто едзе на досвітку ў ПЗГС і там тырчыць на снезе ды марозе да вечара ў надзеі, што дойдзе яго чарга куплі; хто дамаўляецца з шафёрам, які працуе на складзе з тымі плітамі, каб купіў яму (вядома, за адпаведнай узнагародаю); а хто проста дае кладаўшчыку ў «лапу» сто—дзвесце злотых, каб купіў тых плітаў пільснёвых па-за чаргою. Кладаўшчык бярэ не чырванеючы, шафёр таксама. Яны памагаюць гаспадару купіць пліты... Сам гаспадар да іх, значыць, да плітаў не дступіцца. Замнога ахвотных, а замала плітаў. Асабліва, цвёрдых, трохміліметравых, па пятнаццаць злотых з грашамі за адзін квадратны метр.

Так стаяць справы ў ПЗГС-ах, значыць у павятовых мястэчках.

А як у Беластоку? Нібы крыху лепш, бо ж ваяводскі горад, і транспарт не такі засморканы, аднак розніца невялікая. Дастаць тут цвёрдых плітаў трохміліметравай таўшчыні, — бо на такія найбольшы попыт, — гэта цэлая праблема. Трэба нервавацца, трэба круціцца бы вуж, трэба хаборыць і хаборыць! Хабары заўсёды там, дзе недахоп, як гарэлка — дзе нястача. Не збіраюся я тут выкаранць хабарніцтва, бо гэта немагчымае, калі чагосьці замала ўсім, але хачу звярнуць увагу на магчымасці абмежавання хабарніцтва і балагану перад усім. Менавіта: трэба завесці спіскі, чарговыя спіскі гаспадароў, што патрабуюць плітаў, і паводле тых спісаў прадаваць, па чарзе, па справядлівасці. (А то, хто першы дабяжыць, той лепшы, хто хітрэйшы даць больш хабару, той купіць плітаў, хто верыць у справядлівасць магазіншчыкаў, той ніколі нічога не дачакаецца, нічога не купіць. Такая прырода гэтых спраў).

Так у Саколцы, так у Беластоку, так у Бельску. (ся)



«Уладзімір Ленін»

## ПАСЛЯ МЯСЦОВЫХ І ПАВЯТОВЫХ АГЛЯДАЎ

У чытальніцкім конкурсе — турніры «Уладзімір Ленін» на Беласточчыне прыняло ўдзел 42 тыс. 900 чалавек. Яны прачыталі разам 71 тысячу экз. кніжак пра Леніна. Самай папулярнай аказалася кніжка Д. Рыда «Дзесяць дзён, якія ўскалыхнулі свет».

Мясцовыя агляды, гэта значыць, у вёсках, фабрыках, установах і школах, праходзілі да 20 сакавіка. Былі найбольш масавым культурным мерапрыемствам апошніх год. Усе выступленні былі адкрытымі, і людзі прыходзілі на іх як гледачы — 75 тысяч асоб слухала пытанні і адказы пра Леніна. Сярод 42 тыс. удзельнікаў было больш жанчын — 23 тыс., менш мужчын — 19 тыс. Найбольш было маладых да 19 год, аж 27 тыс. Удзельнікаў ад 20 да 29 год ужо значна менш — 9 тыс. 800. Разам з узростам змяншалася і колькасць удзельнікаў. Такіх, пасля 50-ці, было 768 асоб. Найбольш удзельнікаў меў горад Беласток. У паветах найбольш змабілізаваў Беластоцкі павет, які амаль дагнаў горад — 6 тыс. 830 асоб. Параўнайце гэты лік з лікам удзельнікаў у Гайнаўскім павеце — 760 асоб.

Да павятовых аглядаў прыступіла 1230 асоб. З кожнага павета па 2 асобы будуць удзельнічаць у ваяводскім аглядзе, які адбудзецца 11—12 красавіка ў Беластоку.

Паводле масавасці турніру Беласточчына (паводле неафіцыйных дадзеных) займае першае месца ў краіне. На Беласточчыне была вельмі шырокая і актыўная дапамога турніру з боку камітэтаў партыі і бібліятэк.

Узровень ведаў удзельнікаў турніру дырэктар ваяводскай публічнай бібліятэкі ў Беластоку С. Асановіч ацэньвае даволі высока.

(вл)

## фальклор

# МАЛАДЫ ХЛОПЕЦ, Я ЦЯБЕ ЗНАЮ . . .

Малады хлопец, я цябе даўно знаю,
Ты мяне любіш, а я пасагу не маю,
Ты мяне любіш, ты мяне хочаш браці,
А я не маю табе пасагу даці.

Не бойся, дзяўчына, не бойся, нябога,
Не будзе табе за твой пасаг нічога.
Не дожэнеш ты, дожэне твоя маці:
«Ой, было яе без пасагу не браці».

Не дожэнеш ты, дожэне сестра пышна,
Ой, чаго да нас без пасажэньку прышла.
Чужыя невесты гоняць волы з аборы,
А мая нявестка спіць у новай каморы.

Ой, спі, нявестко, бадай ты не ўстала,
За тое быдла, што ад бацькі нагнала,
Нявестка устала з пасцелі, схвацілась
І без вады слёзкамі ўмылась.

І без вадзіцы слёзкамі ўмылась,
І без ручніка ручкамі ўцерлась,
А што, мой мілы, я табе не казала,
Ужо твая маці мне пасагам догнала.

# А Ў МЕСЯЦЫ, У ЮНІ

А ў месяцы, у юні выпала пароша,
А дзед бабцю палюбіў, бо была хароша,
Узяў дзед бабцю за ручэньку
І павёў у святлічэньку.

Праважае стару бабцю так, як маладзіцу,
Узяў дзед бабцю за ручэньку
Стаў пільна дзівіцца,
Паглядзеў дзед бабцы ў зубы —
Бабця не гадзіцца!

Узяў дзед бабцю за ручэньку
І павёў да броду,
Звёўшы бабцю на масток,
Спіхнуў бабцю ў воду.

Стала бабця бульботаці,
А дзед зверху кіём,
Яшчэ бабця бульботала,
Пакуль не прапала.

Як вярнуўся дзед дахаты,
І ў далоні плешчэ,
Калі буду жыў здароў —
Ажанюся ешчэ.

**Ад Дамінікі Івацік з Ахрымаў, Гайнаўскага павета, запісаў Янка Цялушэцкі.**

сукенак і блузак выпускае фабрыка ў суткі. Значная частка прадукцыі ідзе на экспарт.

Не меншае ўражанне зрабіла на нас і Гродзенская тытунёвая фабрыка. Старэйшым чытачам яна нагадае «Гродзенскую махорку». Гэта традыцыйная марка нейкім чынам адбівалася і на нашым уяўленні аб гэтай фабрыцы, пакуль мы яе не наведалі.

Змяніліся традыцыі. Пасля мадэрнізацыі фабрыка выпускае звыш 20 марак папяросаў. З іх 13 сусветнага ўзроўню. Знаходзіцца ў першай пяцёрцы табачных фабрык СССР.

## ПА СУСЕДСКУ МЫ ЖЫВЕМ

Але адложым нашыя разважанні да іншай нагоды. На трыбуне сакратар ВК ПАРП, **Вітальд Мікульскі**. Гаворыць аб ажыццяўленні ленінскай нацыянальнай палітыкі ў перыяд пабудовы сацыялізма ў Польшчы: асвятляе становішча нашай партыі ў гэтай галіне, падкрэслівае інтэрнацыянальны характар ленінскіх ідэй, шырока спыняецца на адносінах ПАРП да нацыянальных меншасцей. Беларускае таварыства займае ў выступленні сакратара ганаровае месца. Зал слухае з вялікай увагай і ўзнагароджвае прамоўцу сардэчнымі апладысментамі.

З сардэчнасцю і з цікавасцю да нашага ваяводства сустракаемся тут на кожным кроку. І нічога дзіўнага, тут у нас многа знаёмых, а ў нашых знаёмых ёсць знаёмыя на Беласточчыне. Частыя прыгранічныя кантакты стварылі зусім новую платформу ў міжнародных сувязях: без дыпламатычных тонкасцей, больш жывую, натуральную, жыццёвую.

Вось і цяпер, яшчэ ідзе канферэнцыя, а нашы гасцінныя гаспадары вязуць нас выступаць перад куды большай аўдыторыяй: у тэлестудыю.

Не святыя гаршкі лепяць, хоць і хвалюемся, але дваццаць дзве мінуты, якія нам трэба правесці ў асляпляючым бляску пражэктараў, выносім мужна.

Працавітай была паездка. Нам дала яна шмат новых уражанняў і пашырыла нашы ўяўленні аб суседзях з-за мяжы. Калі і мы патрапілі перадаць ім нешта новае з нашага жыцця, дык можам лічыць, што была яна ўдачнай, такой, якая і павінна быць, калі сябар наведвае добрага сябра.

**Г. Валкавыцкі**

фота **Я. Краўчанка**

 

## ДЫСЕРТАЦЫЯ МАЁРА ВІХОРА

У 1967 годзе мы друкавалі повесць аб подзвігах савецкага разведчыка, які дзейнічаў у глыбокім тыле. Повесць называлася «Маёр Віхор». Гэта



Я. С. Беразняк — маёр Віхор.

быў хвалюючы расказ аб тым, як у гады мінулай вайны група адважных выратавала ад разбурэння фашыстамі Кракаў. Повесць заканчваецца боем маёра Віхора з немцамі. Цяжка паранены, ён б'ецца да канца. З заканчэння можна было зрабіць вывад, што адважны маёр загінуў.

З прыемнасцю паведамляем нашым чытачам, што маёр Віхор жыве і працуе ў Кіеве. Сапраўднае яго імя Яўгеній Сцяпанавіч Беразняк. Ён педагог, працуе ў Міністэрстве асветы Украінскай ССР, заслужаны настаўнік рэспублікі. Яўгеній Сцяпанавіч паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю ў Кіеўскім дзяржаўным універсітэце імя Т. Шаўчэнкі.

Як паведамляе «Вячэрні Кіеў», Я. С. Беразняк атрымлівае шмат лістоў. Пішуць яму рабочыя і школьнікі, ветэраны Айчыннай вайны і камсамольцы. Часта пішуць легендарнаму Віхору і польскія таварышы.

## ЛЕКАР ПРЫРОДА

У медыцыне ўжываюць ліставыя пупышкі бяроз. Збіраюць іх ранняй вясной, калі яны набрынялі, але яшчэ не распусціліся. Сушаць іх у памяшканні, якое добра праветрываецца, пры тэмпературы 25—30 градусаў. Пупышкі і лісты бяроз утрымліваюць у сабе флаваніды, смалу, сапаніны, вітамін С, эфірнае масла, у састаў якога ўваходзяць бетулен, бетулол і бетуленавая кіслата.

Бярозавыя пупышкі ўжываюць як жоўцегонны і мачагонны сродак.

У народнай медыцыне спрадвеку бярозу лічаць лепшым сродкам ад многіх хвароб. Настойкай пупышак на гарэлцы лечаць раны і захворванні скуры, п'юць яе пры хваробах горла. Свежымі лістамі абкладаюць спіну пры радыкуліце. Верхнюю плеўку бярозы прыкладаюць да нарываў, яна добра выцягвае гной.

## КУТОК ГАСПАДЫНІ. ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ХРЭН

Хрэн — шматгадовая расліна, агульнавядомая перш за ўсё як вострая прыправа да мяса, вяндліны, рыбы. Хрэн добра ачышчае жалудак. Без хрэна не бывае Вялікадня. Пачуўшы яго пах, мы адразу трапляем у святочны настрой.

Таму прапаную не купляць гатовага хрэну ў слоіках; зрабіце яго лепш самі.

Розныя людзі па-рознаму падрыхтоўваюць яго. Ну, вядома, што хрэн адразу трэба памыць (калі ён не зусім свежы, падсохлы, трэба яго крыху памачыць у халоднай вадзе), аскрабсці і сцерці на тарцы, на якой мы звычайна трэм бульбу. Трэба рабіць гэта недалёка ад акна, або на паветры, каб хрэн не еў у вочы.

Хрэн, падрыхтаваны для даўжэйшага ўжытку, пераховўваюць у закрытым посудзе, каб не выдыхаўся.

Найбольш просты спосаб падрыхтоўкі хрэна (распаўсюджаны асабліва ў нашых рэстаранах), гэта **хрэн з воцатам.**

Сцерты хрэн трэба пасаліць па смаку, дадаць цукру і заліць слабым воцатам (разведзеным напалову з вадой), так каб воцат пакрываў хрэн.

На Беларусі, напрыклад, найбольш вядомы **хрэн, запраўлены сырым бураком** (малым бурачком на вялікую колькасць хрэна) або бурачаным сокам. У хрэн дадаюць соль, цукар, невялікую колькасць воцату і сыры бурачок, сцерты на бульбяной тарцы, або толькі сок, выціснуты з яго. Хрэн тады мае вельмі прыгожы колер, ён вельмі моцны.

У Польшчы аднак больш шырока ўжываецца так званая **цвікла** (салат з буракоў з хрэнам) — неабіраныя буракі зварыць, зняць скурку і сцерці на тарцы (для буракоў) і спалучыць іх з сцёртым хрэнам, дадаючы па смаку солі, цукру, воцату, а таксама крыху кмену і паўшклянкі кіпячонай вады (на 1 кг буракоў 100 г — 2 палачкі хрэну). Салат трэба выкладаць у слоік і ўбіць буракі так, каб былі прыкрыты вадкасцю.

Або **хрэн са смятанай.** Да сцертага на тарцы хрэна (3 палачкі) дадаем солі, цукру і воцату — па смаку, плюс паўшклянкі кіслай смятаны. Хрэн са смятанай прызначаецца не для перахоўвання, а да аднаразовага ўжытку.

Вельмі смачны **хрэн са смятанай і яечкамі.** Зваранныя яечкі трэба пасячы і расцерці са смятанай. Змяшаць з хрэнам. Дадаць цукру, солі і воцату. На 3—4 палачкі хрэну бярэм паўшклянкі смятаны і 2 яечкі.

**Гаспадыня**

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### ЛЕГЕНДА СЕН-МАРТЭН

На ўсход ад Пуэрта-Рыка і Віргінскіх астравоў знаходзіцца невялікі астравок Сен-Мартэн, якім валодаюць цэлыя дзве еўрапейскія дзяржавы: Францыя і Галандыя.

Існуе легенда, згодна з якой раздзел вострава, які адкрыты ў XVII стагоддзі адначасова французскімі і галандскімі маракамі, быў ажыццёўлен наступным чынам. Маракі выдзелілі па аднаму чалавеку, якія павінны былі адначасова выйсці з аднаго і таго ж месца і адправіцца ў дарогу ў розныя бакі. Колькі кожны з іх зможа абысці, столькі зямлі будзе належаць яго радзіме.

Француз аказаўся быццам лепшым хадаком, таму цяпер французская частка вострава большая, чым галандская. А галандзец, у сваю чаргу, аказаўся лепшым гаспадаром, бо ён абышоў тую частку вострава, дзе знаходзяцца запасы каменнай солі.

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...самы незвычайны прыжок зрабіла францужанка Андрэ Аадэр. Яна скокнула з Брэсцкага моста вышынёй 52,4 м. Скорасць пры падзенні склала 112 км/гадз.

...самая вялікая скорасць, з якой прымаецца азбука Морзе, — 17 знакаў у секунду. Гэты рэкорд устаноўлен у 1939 годзе амерыканцам Макэлроем.

...на вёслах Атлантычны акіян пераплылі толькі два чалавекі. Яны прайшлі 4.948 км за 55 дзён, маючы ў запасе 5 пар вёслаў.

...у Музеі Цюрыха дэманструецца самы даўні кавалак хлеба? Лічаць, што гэты хлеб быў выпечаны яшчэ ў каменным веку — 6 тысяч гадоў таму назад. Знойдзен ён быў археолагамі ў глеі пасля асушэння возера.

...Вераб'і былі завезены ў Амерыку з Англіі толькі ў 60-х гадах XIX стагоддзя?



## ПА ЛЕНІНСКІМ ШЛЯХУ

**Ленін гаварыў, што адзінай матэрыяльнай асновай сацыялізма можа быць буйная прамысловасць, створаная па апошнім слове навукі і тэхнікі, здольная рэарганізаваць і земляробства. Выконваючы гэты ленінскі запавет, працоўныя Беларусі стварылі за гады савецкай улады магутнае сучаснае машынабудаўніцтва. На здымку: станок павышанай дакладнасці вытворчасці Аршанскага завода «Чырвоны змагар».**

## Чвэрць стагоддзя назад




На трэці дзень мы выбралі зручную мясціну для назірання за падыходам да штабеля з боку вёскі Міншэнвальдэ: разведчыку асцярожнасць ніколі не лішняя. Чакаць прыйшлося ўвесь дзень. Таму мы старанна замаскіраваліся. Добра, што ў гэтыя дні якраз было ціха, нас ніхто не трывожыў. Гэта наводзіла на думку, што радыёстанцыі «Джэка» недзе далёка або не выходзяць на сувязь з Масквой. Інакш бы іх засякалі пеленгатары, і вяліся б аблавы, прачэскі лесу. Мы чакалі ўбачыць дваіх. Але незадоўга да ўмоўленага часу ўбачылі траіх. Калі яны мінулі нас, мы прыслухаліся, ці не ідзе яшчэ хто-небудзь за імі. Але было ціха. Мы падняліся, і, разышоўшыся, дагналі гэтых траіх. Шыллята пазналі адразу, таму не сталі таіцца.

— Гэта мой сын Ота, — узяўшы пад руку высокага, стройнага хлопца з гонарам сказаў бацька. — Глядзіце, які вымахаў! Не думаў ніколі, што ў маёй сям'і можа быць эсэсавец... — з горыччу ўсміхнуўся Шыллят. — А гэта Эрнст Райчук.

Стары чалавек, на доўгіх нагах, з завостраным унізе тварам, глыбока пасаджанымі жывымі вачамі, няўклюдна рушыў да нас.

— Райчук. Эрнст Райчук, — прадставіўся ён.

— Вам ад «мутэр», — падаючы клунак, сказаў Шыллят. — Тут шарсцяная коўдра і дзве пары цёплых шкарпэтак. Яна вельмі хвалюецца, каб вы не прастудзіліся. Зямлю прымарожвае. «Мутэр» прасіла, каб я зняў у вас меркі — хоча пашыць суконныя пантофлі на лямцы. У зямлянцы ў іх будзе мякка і цёпла. Ногі адпачнуць. А тут — яда, — кончыў ён, перадаючы з рук Ота вялікі скрутак.

— За ўсё — вялікі дзякуй. Пантофлі шыць няварта, — выказалі мы адзіную думку з Генкам. — Гэта тут лішняе...

Доўга цягнулася наша гутарка. Між намі ўсталяваўся поўны давер. Пайшлі чуткі, што будуць эвакуіраваць мірнае насельніцтва ўглыб Германіі. Шыллят і Райчук загаварылі аб тым, што яны хочуць пазбегнуць эвакуацыі, каб сустрэць тут Чырвоную Армію. Яны падумалі аб тым, каб выкапаць у лесе зямлянку, назапасіць ежы і схавацца ў ёй з сям'ёй, як толькі будзе выдадзены загад аб эвакуацыі.

— А як твае справы, Ота? — звярнуўся я да сына Шыллята.

— Са мной ужо ўсё вырашана. На днях забіраюць у маршавую роту, — засмучана адказаў ён. — Калі пашлюць на перадавую, буду шукаць магчымасці, каб перайсці да рускіх...

— Мы ўсе так рашылі, — пацвердзіў Шыллят — старэйшы. — Дарагі таварыш, ці не мог бы ты напісаць Ота даверанае пісьмо да вашага камандавання. Няхай абыдуцца з ім, як са звычайным палонным, а не як з эсэсаўцам? Я ўжо гаварыў вам, што яго прызываюць у войскі СС...

— Я рады выпадку зрабіць для вас нешта добрае. Давайце падыдзем да нашай зямлянкі.

— Не трэба пакуль. Вы падрыхтуйце. Мы з Ота абавязкова прыйдзем яшчэ развітацца з вамі. Тады і забяром.

— Камуністы павінны памагаць адзін аднаму — у гэтым наша сіла, — расчулена сказаў Райчук, і колькі добрых хвалюючых пачуццяў ускалыхнула ў той час гэта зусім не новая, так многа раз чутая думка.

— Вазьміце. Тут звесткі аб Курляндыі — ад маёра, — падаў на развітанне Шыллят невялічкі канверт з тоўстай паперы, перацягнуты ўздоўж і ўпоперак гумкай.

У канверце былі звесткі аб дывізіі, у якой служыў маёр. Але яны былі ўстарэлыя, месячнай даўнасці. Мы рашылі, што яны ўжо страцілі сваю каштоўнасць.

Нарэшце мы сустрэліся з Аляксеем Лазавым і Іванам Громавым. Яны былі заклапочаны.

— У лагеры ходзяць чуткі, што нас збіраюцца перавесці адсюль углыб Германіі, — паведаміў Аляксей. — Усе хвалююцца: невядома, што з намі там зробяць. Мо кінуць у душагубку...

— Што ж думаюць рабіць нашы людзі? — пытаюся.

— У кожнага свае планы. Некаторыя разлічваюць на ўцёкі па дарозе. Але ж вось-вось ляжа снег — куды дзенешся? Тут, у Прусіі, доўга не пратрымаешся. Ды яшчэ без зброі. Лінію фронту таксама нялёгка перайсці, — расцягваючы словы гаварыў Іван.

— Вас двух мы можам узяць у нашу групу.

— Праўда! Вось дзякуй. А то мы самі хацелі прасіцца, але сумняваліся, што гэта магчыма: разведчыкаў жа падбіраюць там, — Аляксей кіўнуў на Усход, — правераных людзей, а не з палонных.

— Цяпер застанецеся ці потым прыйдзеце? — спытаў Генка.

— Не, цяпер нельга. Трэба папярэдзіць сяброў. Нешта трэба зрабіць, каб ім за нас не прыйшлося разлічвацца галовамі. Ды і рэчавыя мяшкі трэба прыхапіць — там сякія-такія апранахі, крыху сухароў.

— Хадзем — пакажам, дзе нас шукаць. Назначаць час сустрэчы няварта. Выбірайце зручны выпадак для пераходу.

Мы павялі Громава і Лазавога да сваёй зямлянкі. Я ніяк не мог папярэдзіць Генку, каб не прагаварыўся, дзе наша зямлянка. Спыніліся крокаў за пятнаццаць ад яе.

— Стукніце па гэтым ствале, — паказаў я на высачэзную стромкую сасну. — Тры разы палкай з роўнымі інтэрваламі. Толькі не моцна. Мы вас пачуем.

Праз два дні пасля гэтай сустрэчы мы пачулі, што да зямлянкі набліжаюцца нечыя крокі. І не аднаго чалавека.



 

